№ 7 (35) СТУДЗЕНЬ- САКАВІК 1992

# ХРЫСЬЦІЯНСКІЯ НАВІНЫ

RADIO VATICANA
Ufficio Propaganda
00120 CITTÀ DEL VATICANO

# БЕЛАРУСКІ ІНФАРМАТАР

адказны за бюлетэнь
Янка Мойсік

## РОДНАЯ МОВА Ў СЬВЯТЫНЯХ! (ЧАСТКА 21)

Др.Віктар Сенкевіч

Дарагія чытачы! Мы працягваем пераказ зьместу працы ведамага беларускага рэлігійнага дзеяча ксяндза Адама Станкевіча "Родная мова ў сьвятынях", што была выдадзеная ў Вільні ў 1929 годзе. Мы заканчваем пераказ зьместу 9 разьдзелу. У гэтай частцы разьдзелу аўтар піша пра Канкардат паміж Польшчай і Апостальскай Сталіцай падпісаны 10 лютага 1925 году, і пра вынікі яго для справы замацаваньня беларускай мовы ў Касьцёлах на Беларусі. Аўтар цьвердзіць:

Канкардат гэты, з прычыны стараньняў польскай дыпляматыі і недастатковых захадаў з боку беларусаў, для няпольскіх моваў у Касьцеле і асабліва для беларускай, выявіўся некарысным. Перадусім артыкул XI Канкардату, які выключаў магчымасьць назначэньня біскупа беларуса, бо прэзыдэнт Польшчы меў права запратэставаць супраць кандыдата дзеля палітычных матываў. А тымчасам было ясна- кажа аўтар, што сама прыналежнасьць да беларускай нацыянальнасьці магло стацца гэтым палітычным матывам.

Артыкул XIX Канкардату вымагаў ад біскупаў, каб назначаючы ксяндзоў на пробашчаў пыталі раней у адпаведнага польскага міністра, каб ўпэўніцца, ці дзейнасьць кандыдата на пробашча не пярэчыла бясьпечнасьці дзяржавы. І тут было зразумела, што ў вачах міністра, беларуская нацыянальная дзейнасьць ксяндза магла быць ўважанай за небясьпечную для дзяржавы.

Урэшце артыкул XXIII сьцьвярджаў: "Без адмысловага дазволу Канфэрэнцыі Біскупаў лацінскага абраду нельга было правесьці ніякіх зьменаў ў мове ўжыванай у пропаведзях, дадатковых набажэнствах і ў выкладах у сэмінарыях у дыяцэзіях каталіцкага абраду". На аснове гэтага

артыкулу у сьвятынях на беларускіх землях пад Польшчай і надалей мела быць ужываная мова польская гэтак у казаньнях, як і ў дадатковых набажэнствах і ў сэмінарыях. Беларуская мова магла быць уведзеная зноў толькі з дазволу Канфэрэнцыі Біскупаў. У тых-жа Касьцёлах, дзе яна была ўведзеная перад падпісаньнем Канкардату, праўна яна магала там заставацца і надалей. Аднак, кажа аўтар, яе хутка пачалі выганяць і адтуль.

Беларускае каталіцкае духавенства, як толькі даведалася аб падпісаньні Канкардату, у сваім мэмарыяле ад 20 сакавіка 1925 году адразу зьвярнулася да Апостальскага Нунцыя ў Варшаве, прадстаўляючы яму свае заўвагі, што да тых пунктаў і артыкулаў Канкардату, якія маглі быць крыўднымі для беларусаў. У гэтым мэмарыяле, між іншымі просьбамі былі: Выдаць адмысловы загад аб ужываньні беларускае мовы ў рэлігійным навучаньні і ў дадатковых набажэнствах у Касьцёлах пад Польшчай; назначыць у Вільню і Пінск біскупаў суфраганаў беларусаў; у духоўных сэмінарыях згаданых гарадоў увесьці беларусаведу з мэтаю адпаведнай падгатоўкі душпастыраў для беларусаў католікаў.

19 мая 1925 году- ніша далей айцец Адам Станкевіч- беларускае каталіцкае духавенства злажыла мэмарыял Канфэрэнцыі Біскупаў. З гэтага мэмарыялу даведваемся, што ўва ўсходніх ваяводзтвах Польшчы знаходзілася больш-менш мільён каталікаў беларусаў і што беларусы каталікі, як значная складовая частка 10 мільённага беларускага народу, разам з беларусамі праваслаўнага веравызнаньня будзілася да сьведамага нацыянальнага жыцьця, дамагаючыся права для сваей мовы гэтак у асьветным, палітычным і грамадзкім, як і ў рэлігійна-царкоўным жыцьці.... А мы, каталіцкія ксяндзы- гаварылася ў мэмарыяле-- духоўныя пастыры беларусаў католікаў, як сыны нашага народу працуем для яго адраджэньня, зьвяртаючы ўвагу перадусім на тое, каб каталіцкая вера, як уклад і апора мела забясьпечанае сабе месца ў сэрцах католікаў беларусаў, а таксама, каб адгэтуль зіхацела і на нашых братоў праваслаўных. Мы загаварылі ў справе ўжываньня роднае мовы ў Касьцеле асабліва таму, што мову польскую, як мову чужую народ наш наогул не разумее. Хопіць паслухаць як беларус моліцца па-польску, перакручвае ўсё так, што і пазнаць нельга, каб пераканацца ў тым, што пастырская праца сярод беларусаў католікаў у чужой для іх мове вельмі цяжкая а часам зусім бескарысная. Хвала Божая і дабро душаў нашага народу вымагае, каб у рэлігійна-царкоўным жыцьці карыстацца яго роднай мовай...",

Беларускія ксяндзы закончылі свой мэмарыял наступнымі пажаданьнямі: 1) Увесьці ў як найхутчэйшым часе навучаньне беларускае мовы, літаратуры і гісторыі ў духоўных сэмінарыях Вільні і Пінску; 2) Выдаць нормы, якія рэгулявалі-б належна ўвядзеньне і ўжываньне беларускае мовы ў дадатковых набажэнствах на беларускіх землях, азначаных у мэмарыяле і 3) Пры разьмяжаваньні і падзелах дыяцэзіяў, расталожаных ува ўсходніх ваяводзтвах, беларускія этнаграфічныя тэрыторыі, што

мякуюць з польскімі і украінскімі, далучыць да іх этнаграфічных ц... траў". Цэмарыял гэты падпісалі, як прадстаўнікі беларускага каталіцкага духавенства 15 ксяндзоў. Гэта айцы- Абрантовіч, Рэзаць, Зянькевіч, Гадлеўскі, Цікота, Рамэйка, Станкевіч, Шутовіч, Семашкевіч, Стэповіч, Шалкевіч, Хамёнак, Аляшкевіч, Аўгустыновіч і Шыяка.

"На Канфэрэнцыі- закончвае айцец Адам Станкевіч- мэмарыял гэты быў разгледжаны а затым была прынятая адмысловая рэзалюцыя, у якой адзначалася, што духоўныя патрэбы усіх веруючых без розьніцы іх нацыянальнасьці неабходна задаволіць прыхільна і справядліва".

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

(НЯДЗЕЛЯ ПАСХІ)!

"Хрыстос уваскрос з мёртвых,
сьмерцю сьмерць зваяваў, і тым, што
ў магілах, жыццё дараваў".

Пасля глухога маўчання Вялікай Пятніцы, адазваўся нараз магутны звон... Ды не трывожны звон смутку, але звон радасьці- Вялікадня Уваскрасення.

А разам з гоманам вялікоднага звону нясецца з вуснаў да вуснаў,- ад хаты да хаты,- ад грамады да грамады-- адушаўлёная радасная вестка: "Хрыстос Уваскрос". Спачатку, як быццам, паволі, ціха, нясьмела-- а пазн... грахотам грому, сілаю віхру-урагану, скорасцю маланкі хапае, абыймае, захапляе гэтая вестка сэрцы цэлага хрысціянскага свету да супольнай песьні звонкай песьні славы....

А з гэтаю песняй сэрцаў зліваецца адначасна і песня званаў-- зліваецца ў адзін магутны гімн-- Гімн Уваскрасення.

О, Божа, што за радасьць!

Ды сапраўды ёсць чым радавацца! Бо ж вы добра ведаеце, што хацелі зрабіць ворагі Хрыста! Яны, забіваючы Збавіцеля, прывальваючы Яго гроб цяжкім каменем і патаемна закопваючы крыж Яго глыбока ў зямлю, хацелі тым самым забіць-- гэта значыць, вымазаць з людзкой памяці Яго Імя. Хацелі каменем забыцця прываліць Боскую Яго Навуку, гэтую найлепшую, найвышэйшую Дабравесьць Неба. Хацелі закапаць, зьнішчыць вечнае шчасце мільёнаў душаў!

Што за пякельнае дзела, якое нешчасце задумалі падрыхтаваць! І як

цешыліся, нікчэмнікі, сваею хвілёваю перамогаю!

Дык вось здзейсніліся прарочыя словы Збавіцеля: "Сапраўды, сапраўды кажу вам, вы заплачаце і загалосіце, а свет уцешыцца... вы сумныя будзеце, але сум ваш у радасьць зменіцца... і радасьці вашай ніхто не адбярэ ў вас".(Ян 16.20,22)

Вось смутак у радасьць пераменіўся! Вось перамагла праўда! Вось Хрыстос заваяваў перамогу!

Адкрыліся вароты смерці, а з пад грабовага каменя-- з паніжэння ды хвілёвага ўпадку-- ўстаў праслаўлены Хрыстос-Пераможца, Хрыстос-Валадар, Пан жыцця і смерці... Устаў у ззяньні славы ды з ўсмехненым, шчасцем прамянюючым аблічам, заявіў: "Спадзявайцеся! Я перамог свет".(ЯН 16,33)

О, Божа, што за радасьць! Што за шчасце!

Што за радасьць і шчасце падрыхтаваў Ты, Добры, Ласкавы Збавіцелю, для мільёнаў-мільёнаў душаў, выказваючы гэта ясна перад светам, што Праўда мусіць перамагчы зло,- што Святло Неба мусіць канчаткова прагнаць цемру пекла,- што Божая Сіла мусіць перамагчы ўсякую злобу гэтага свету!

Што за радасьць і шчасце падрыхтаваў Ты, Добры, Ласкавы Збавіцелю, для мільёнаў-мільёнаў сваіх паслядоўнікаў, напаўняючы іхнія сэрцы непахіснаю вераю ў Тваю Боскасьць, праменнаю надзеяю на тое Шчасце, якое Ты прапаведваў і гарачаю любоў'ю, як адказам за бязмежную любоў Твайго Усёлюб'ячага Сэрца!

Слава,- слава Збавіцелю, што смерцю смерць зваяваў і тым, што ў магілах, жыццё даравау!".

Так! Хрыстовае Уваскрасенне ёсць не толькі перамогаю Праўды, але таксама і перамогаю жыцця!

I) У першай меры Жыцця вечнага. Бо вось, менавіта, сёння завяршылася Абятніца, дана Богам, яшчэ ў раю,- Абятніца збаўлення. Сваім крыжам адбудаваў Збавіцель памост паміж небам а зямлёю,(які сарвалі, цераз першародны грэх, нашы прабацькі Адам і Эва). Вярнуў нам назад Збавіцель ласкавасьць Нябеснага Айца ды годнасьць Божага Дзіцятка. А сваім Уваскрасеннем абвясціў Хрыстос цэламу свету, што збаўленне людзтва ўжо канчаткова завершанае ды даказанае. Па-над усякае сумленне даказанае!....

Што за радасьць, што за шчасце для людзтва, што тое збаўленне, тое вечнае

жыццё, можна лёгка цяпер асягнуць!

Таксама і дачаснае жыццё "ахвяраваў" Збавіцель сваім Уваскрасеннем. Бо вера ды надзея ў будучае вечнае Шчасце, асалоджвае горкае туземнае жыццё,- жыццё поўнае галечы і турботаў, няўдачаў і боляў-- жыццё поўнае крыжаў ад Бога ды несправядлівасці ад людзей....

Многа-многа людзей папала б у роспач ды вар'яцтва і заўчасна зыйшло б у магілу, калі б не мелі надзеі, што ў Найсправедлівейшаму Суддзі Неба знойдуць нагароду за несправядлівасці, адплату за крыўды ды шчасліваае жыццё за цярпенні на зямлі.

А Хрыстовае Уваскрасенне, што даказвае Боскасьць Хрыста, апраўдвае гэтыя надзеі ў найвышэйшай меры.... Яно ўлівае ў чалавека бордасьць і ахвоту да жыцця, дадае жыццёвай сілы ды радасьці ў пераношванні крыжоў,- словам: робіць гэтае жыццё пагодным, вартасным, цэнным, карысным. Тады і той гімн: "Хрыстос Уваскрос з мёртвых"-- не ёсць пустым звукам, а сапраўднаю тою сілаю, што заахвочвае да жыццёвай барацьбы, палягшае яе ды дае перамогу!

Бо што было асноваю цэлай геройскай пары хрысціянства,- што дадавала першым хрысціянам гэтай надзвычайнай жыццёвай радасьці, гэтай надлюдзкой сілы ды устойлівасці сярод лютых праследванняў, як не тое адушаўляючае: "Хрыстос Уваскрос"?

Бо што было прычынаю таго, што хрысціянскія пакутнікі, аскеты-- ды мучанікі з такім задаваленнем ахвяроўвалі цэлае сваё жыццё за Хрыста, як не менавіта тая праўда: "Хрыстос Уваскрос"?

Што гнала светамі Святога Паўла, таго Найбольшага Місыянара народаў? Адкуль браў ён тую надзвычайную сілу ў перамаганні надлюдзкіх перашкодаў, у завяршанні надлюдзкіх учынкаў-- як не, менавіта, тое "Хрыстос Уваскрос"? Так, нішто іншае не ў сіле дабавіць вам, дарагія браты і сёстры, сілы, ахвоты ды бадзёрнасці ў нясенні сённяшняга, надзвычайнага цяжкага крыжа, крыжа так асабістага як і ўсенароднага, як толькі той магутны гімн Праўды ды Жыцця: "Хрыстос Уваскрос".

Дык скінце з сябе сёння ўсякае прыгнечанне, ўсякае нявер'е! З паднесеным аблічам, усьмехненным тварам, з жыцця-радасным настроем, падносьце сэрца ў гару- да неба, ды з адушаўленнем сьпявайце гімн Праўды і Жыцця: "Хрыстос Уваскрос"!

А такою вялікаю радасцю, такім вялікім адушаўленнем напаўняйце свае :эрцы з прычыны Хрыстовага Уваскрасення, каб сёння вы змаглі агрэць, запаліць, адушавіць ды схапіць халодныя сэрцы тых, што не ведаючы, якая сіла ў Хрыстовым Уваскрасенні, ходзяць сёння засмучаныя і прыгнечаныя.

"Я ёсць ўваскрасенне і жыццё"(Ян II,25)- сказаў Збавіцель. І тую веру ды надзею ва Уваскрасенне ды Жыццё,- тую Божую сілу, што цяжкія камені падносіць, кайданы зрывае ды новае жыццё на руінах засноўвае,- нясіце дарагія ў Хрысце, ад хаты да хаты, ад вёскі да вёскі, каб цэлы наш бяздомны беларускі Народ, падзелены граніцамі і партыяй, біты галечу, нешчасцем ды цяжкімі злыбедамі, аб'яднаўся пры Уваскросшым Збавіцелю. Каб паверыў ён непахіснаю вераю, каб спраўдзіўся нязломнаю надзеяю, што і ў Іго жыцці, пасля Вялікай Пятніцы, мусіць наступіць калісьці Вялікі Дзень Уваскрасення-- Дзень Праўды, Свабоды ды залатой Свабоды.... АМІН!

## БЕЛАРУСЬ- СУВЯЗЮ У ЛАНЦУГУ УСХОДНЯГА І ЗАХОДНЯГА ХРЫСЬЦІЯНСТВА У МІНУЎШЧЫНУ І ДАЦЯПЕР!

(ЗАКАНЧЭНЬНЕ)

У днях 28-3I кастрычніка адбыўся ў Ватыкане сімпозіум на тэму: "Хрысьціянства і культура ў Эўропе: Памяць, Сьвядомасьць, План на будучыню". Сярод удзельнікаў гэтага спатканьня быў таксама і прафэсар Анатоль Грыцкевіч з Менска. Вось яго выступленьне на гэтым сімпозіўме (з Яго дазволу)

Царскі ўрад Расеі усё ж з недаверам ставіўся нават да прадстаўнікоў праваслаўнага духавенства Беларусі, не гаворачы ўжо пра каталіцкае. У I620 годзе царкоўны Сабор пад кіраўніцтвам Патрыярха Філарэта "Великого государя", айца цара Міхаіла Раманава, прыняў спэцыяльную пастанову, якая прымушала усіх праваслаўных, што выйшлі з Беларусі ў Расейскую дзяржаву, хрысьціцца другарадна, бо яны "заражаны каталіцкай ерэсьсю". Пасьля ўзяцьця Іванам Грозным Полацку ў I563 годзе ў Маскву былі высланы не толькі ўзятыя ў палон ваявода Станіслаў Давойна і шляхта, але і полацкі Праваслаўны Архіяпіскап, а з Масквы на яго месца быў прысланы рускі ерарх. Таксама зрабіў цар Аляксей Міхайлавіч у I654-I655 гадаў, прыслаўшы на Беларусь рускіх епіскапаў. У выніку натуральнага працэсу у канцы ХУII стагоддзя, напярэдадні далучэньня Беларусі да Расеі 75 працэнтаў беларускага насельніцтва былі вуніятамі (а ў сельскай мясцовасьці нават 80 працэнтаў), 6,5 працэнтаў былі праваслаўныя, I8 працэнтаў рыма-каталікамі і 0,5 працэнтаў кальвіністамі. Практычна грэка-каталіцкая Царква стала нацыянальнаю Царквою Беларусаў, як пісаў у падпольнай газэце "Мужыцкая Праўда" кіраўнік паўстаньня I863 году на Беларусі і Літве Канстантын Каліноўскі.

Прылучыўшы Беларусь і правабярэжную Украіну, Кацярына II вырашыла адным ударам зьліквідаваць уніяцкую Царкву. У 1794 годзе яна выдала Указ аб зьнішчэньні гэтай Царквы і пераводзе усіх сьвятароў і міранаў у Рускую Праваслаўную Царкву. Аднак гэты Указ выклікаў супраціўленьне уніятаў. Павал I, які у 1796 годзе сьмяніў на пасадзе Кацярыну II, указ адмяніў. 90 працэнтаў "уз'яднаных" уніятаў вярнуліся ў сваю Царкву. Аднак Павал I і Аляксандр I стваралі ўсялякія абмежаваньні для дзейнасьці гэтае Царквы.

Расейскі ўрад не столькі клапаціўся пра канфэсійны бок праблемы, як імкнуўся падпарадкаваць і, ў канчатковым выніку, зьліквідаваць Уніяцкую Царкву, якая мела сваё ўпраўленьне і свайго кіраўніка- Папу Рымскага. А Праваслаўная Царква ў Расеі з часоў Пятра I (XVIII ст.) не мела нават Патрыярха, была ўключаная ў дзяржаўную машыну кіраваньня краінаю і мела на чале Сьвяты Сынод ці духоўную калегію (поруч з іншымі калегіямі, якія складалі цэнтральнае кіраўніцтва Расеі), падпарадкаваную непасрэдна імпэратару, гэта значыць, сьвецкі цар (государь) кіраваў Царквою. У такіх умовах незалежная Царква царызму не была патрэбная. Яна б перашкаджала яму весьці ўнутраную палітыку ў заходніх губэрнях імпэрыі.

Знайшоўшы сярод вуніяцкіх біскупаў прыхільнікаў далучэньня уніяцкай Царквы да Праваслаўнай, [illegible] аказаўся Язэп Сямашка, царызм падрыхтаваў ліквідацыю Уніяцкай Царквы на Беларусі і Украіне. Непасрэдную арганізацыю царкоўнага Сабору імпэратар Мікалай I даручыў шэфу жандармаў графу Бенкендорфу, як і складаньне акту аб "ўз'яднаньні" вуніятаў з Праваслаўнаю Царквою. У лютым 1839 году ў Полацку быў скліканы царкоўны сабор вуніяцкай Царквы, які пад кіраўніцтвам Язэпа Сямашкі і пад націскам шэфа жандармаў прыняў усе пастановы, якія ад яго патрабавалі. Так была зьліквідаваная вуніяцкая Царква на Беларусі і Украіне і ўзмоцнена роля пануючай Рускай Праваслаўнай Царквы. Частка вуніятаў не пажадала далучыцца да Праваслаўнай Царквы і перайшла ў рымска-каталіцкую.

Да пачатку XX стагоддзя ўжо 75 працэнтаў Беларусаў складалі праваслаўных вернікаў, а 25 працэнтаў каталікоў. Такім чынам, на працягу XIX і XX стагоддзяў у Беларусі па ранейшаму суіснавалі дзьве Царквы-- Праваслаўная і Каталіцкая.

Духоўнае жыцьцё ў цяпер незалежнай Рэспублікі Беларусь у апошнія гады актывізавалася, аднак больш за 70 гадоў камуністычнага панаваньня і марксісцка-ленінскай індактрынізацыі насельніцтва зрабілі сваю справу. Да гэтага дадаецца нягалоснае захаванае панаваньне камуністаў у органах улады, ўключаючы парламант Беларусі, хаця дзейнасьць кампартыі Беларусі пасьля правалу жнівенскага путчу прыпыненая.

Значны аўтарытэт мае на Беларусі Руская Праваслаўная Царква, парафіі якой на Беларусі ўзначальваюцца Сынодам Беларускай Праваслаўнай Царквы і Патрыяршым Экзархам Мітрапалітам Філарэтам. Адноўленая рымска каталіцкая герархія наБеларусі на чале з арцыбіскупам Сьвёнткам.

Немалы ўплыў маюць і сэктанты. Сёлета створана і грамада кальвіністаў, якія мелі немалы ўплыў у гарадах Беларусі. У буйных гарадах Беларусі адноўлены грамады грэка-каталіцкай Царквы, праўда, яшчэ сваіх храмаў не маюць. Прычым, гэтыя грамады складаюцца ў большасьці з моладзі. Гэта добрыя прыкметы : вяртаецца і адраджаецца духоўнасьць беларускага народу. Але ёсьць у гэтым натуральным працэсе і адмоўныя зьявы. Побач з разбурэньнем камуністычных ідэалаў значную частку насельніцтва ахапіла няверʼе наогул, а зьверненьне да Царквы мае хутчэй знешні характар і складае своеасаблівую моду. Існуюць таксама непатрэбныя супярэчнасьці паміж прадстаўнікамі розных канфэсій, што нярэдка скарыстоўваецца камуністычнымі ўладамі. Значная частка моладзі духоўным жыцьцём зусім не жыве і ім не цікавіцца.

Тым не менш лічу, што далейшае разьвіцьцё духоўнасьці беларускага народу мае добрую пэрспэктыву. Пад ціскам дэмакратычнай апазіцыі ў парламенце ўлады ідуць на значныя ўступкі Царкве, вяртаюць Храмы вернікам.

Створана Біблейскае грамадзтва Беларусі, ў кіраўніцтве якім якім прадстаўленыя ўсе хрысьціянскія канфэсіі, якія ёсьць ў Рэспубліцы. Адпаведна, нягледзячы на абмежаваньня мэты гэтага таварыства, ёсьць магчымасьць абмяркоўваць агульныя пытаньні, што датычаць усіх хрысьціян.

І Праваслаўная Царква і Каталіцкі Касьцёл прымаюць удзел у нацыянальным адраджэньні беларускага народу. У багаслужбе і ў Праваслаўнай, і ў Рымска-Каталіцкай Царкве чуецца і беларуская мова, хаця пакуль толькі некалькі сьвятароў яе выкарыстоўваюць.

Праваслаўны Мітрапаліт Філарэт стварыў камісію для перакладу Бібліі на беларускую мову. У якасьці кансультантаў закліканы вучоныя. У духоўных сэмінарыях: у Жыровічах (праваслаўная) і ў Гародні (каталіцкая) выкладаецца беларуская мова. Але гэта толькі першыя крокі. Асноўнымі ж мовамі ў кантакце з вернікамі па ранейшаму застаецца расейская мова ў праваслаўных і польская ў Каталіцкай Царкве. У гэтых адносінах пэрспэктыву мае каталіцкая Царква Усходняга Абраду (грэка-каталіцкая, вуніяцкая) ў якой багаслужба вядзецца на беларускай мове. Ва ўмовах нацыянальнага адраджэньня Беларускага народу ёсьць неабходнасьць стварыць асаблівую ерархію для уніяцкай Царквы на Беларусі (пакуль яна падпарадкавана вуніяцкай Царкве на Украіне). Гэта дазволіць Сьвятому Пасаду непасрэдна кіраваць пастырскай дзейнасьцю каталіцкай Царквы усходняга абраду на Беларусі, захавае ў ёй юнацтва, дазволіць пашырыць яе уплыў сярод тае часткі насельніцтва, якая гаворыць на беларускай мове ці ведае яе і якая настроена патрыятычна. Неабходныя таксама кантакты і ўзаемазразуменьне паміж ерархіяю розных хрысьціянскіх веравызнаньняў.